# У З Д Ы М

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАГА АКТЫВУ НА ВЫГНАНЬНІ**

M . Kobiako , 4234 Mapledale Ave . Cleveland 9, Ohio

ГОД I | СЬНЕЖАНЬ 1963 | Нр. 2



Вясёлых Каляд і шчасьлівага Новага Году

УСІХ ПАДПІСЧЫКАЎ, ЧЫТАЧОЎ, СУПРАЦОЎНІКАЎ І СЫМПАТЫКАЎ ДЫ ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ НА ВЫГНАНЬНІ І НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ САРДЭЧНА ВІТАЕМ З РАДСТВОМ ХРЫСТОВЫМ І НОВЫМ 1964 ГОДАМ І ЖАДАЕМ ДУХОВАЕ РАДАСЬЦІ ,ЖЫЦЬЦЯТВОРЧАСЬЦІ, ШЧАСЬЦЯ ПОЎНАГА,ЗДАРОЎЯ МОЦНАГА І ВЕКУ ДОЎГАГА!

РЭДАКЦЫЯ "УЗДЫМУ"

## НАВАГОДНІЯ ДУМКІ.

Надыходзіць Новы Год.Ізноў пачынаецца новы лік дзён з першага студзеня.Адыходзіць у вечнасьць 1963 год з тым,каб ніколі больш не вярнуцца і як пасланец таеж вечнасьці,яму на зьмену ідзе 1964 год.
У кожным годзе дні ціхачом ідуць,плывуць за днямі,і кожны Год

бяз слоў зьменяецца другім. З выгляду-ж аднак кожны дзень падобны на свайго папярэдняга і свайго наступнага: ён як і другія дні,мая сваю раніцу, свой поўдзень і свой вечар. І гэты кожны год падобны папярэдняму і наступнаму году: мая сваю вясну,лета, восень,зіму. І здаваласяб, тое што было, ёсьць і цяпер, а тое што будзе,- ужо было. Сучаснае выдаецца нам дзяцінным,а прычыны сучаснасьці - быццам наслядкі мінулага. А зноў-жа прабег сучаснасьці - гэта зародкі будучага.

Аднак згодна свайго зьместу ня толькі кожны год рожніцца ад другога і ня толькі кожны дзень рожніцца ад другога дня, але і кажная часіна і хвіліна рожніцца ад другое часіны і хвіліны.Гэта значыць,што кожны дзень мая пераказаць нешта наступнаму дню і кожны дзень мая сваё ўласнае жаданьне для наступнага дня,а кожная ноч для наступнае ночы. А тым больш гэта можна сказаць адносна года ўцэласьці.

І калі кожны дзень мая нешта новае,а тым больш новае павучальнае,то больш новага, павучальнага і цікавага дае нам год ўцэласьці І калі мы разьвітваючыся з старым і сустракаючы новы год,то нам хацеласяб узяць з сабою на будучыню лекцыі мінулага году,з каторым мы разыходзімся.

Бо мінулае,гэта як бы школа чалавечага жыцьця, бо самае жыцьцё ёсьць цікавым і моцна спалучана з надзеяю на будучыню. І калі-б адняць гэтую надзею,то жыцьцё чалавека сталасяб абсалютна бязмэтным аднастайным, былаб спаралізаваная ўсялякая цікавасьць у жыцьці,страчаная актыўнасьць ды інцыятыва і надзея на лепшую будучыню. Новы Год як бы ажыцьцяўляе ў людзей гэтую надзею.Людзі нібы ізноў родзяцца,ізноў пачынаюць змагацца за сваё існаваньне,ізноў паўстае думка на лепшае і шчасьлівейшае жыцьцё і мы жыцьцярадаснымі вітаем у гэты дзень сваіх родных,сяброў і знаёмых.

Мы,пішучы гэтыя словы, хацеліб пажадаць каб усе людзі сапраўды пазналі праўду,каб адчулі шчасьце,каб вітаючы адзін аднаго "З НОВЫМ ГОДАМ" мелі глыбокую надзею на вечнае шчасьлівае жыцьцё,прыгатаванае для нас усіх Тварцом.

Мы жадаем,каб людзі не забываліся,што шчасьлівае жыцьцё можа і павінна базавацца на любові адзін да аднаго,а не на зайздрасьці, якая ёсьць пачаткам зласьці, каб не жадалі іншаму ,чаго сабе не жадаем,каб былі заўсёды гатовымі змагацца з няпраўдаю,не служыць да "гаспадаром",не радавацца чужому няшчасьцю,а быць гатовым дапамагчы патрэбуючаму.Каб кожны памятаў,што добрая справа не пад прымусам,а згодна чалавечае годнасьці,не дамагаючыся за гэта ні заплаты,ні ўдзячнасьці,а выконвацца як грамадзкі абавязак,павінна.

Вот з гэткімі думкамі і надзеяю мы павінны ўступіць у Новы 1964 Год.Мы павінны мець глыбоку надзею і на Божую дапамогу,каб праз гэта мець магчымасьць усім народам вызваліцца з пад бязбожніцкае ўлады і арганізаваць сваё жыцьцё з любоўю і павагаю да самых сябе і да іншых. А гэта магчыма,калі мы будзем належна карыстаць з часу, ад ўжываньня якога залежыць наша шчасьлівае,або нешчасьлівае жыцьцё,для якога мы створаны і жывём.

Ґэтага мы і жадаем для нашых чытачоў і сымпатыкаў у Новым 1964 Годзе!

"Рэдакцыя"

=================

"Найбольш нясталаю датаю сьвяткаваньня Новага Году маюць Эскімосы, бо ў іх Новы Год залежыць ад пагоды,а мяноўна калі выпадзе першы сьнег"

## З А Б О Й С Т В А   П Р Э З Ы Д Э Н Т А   К Э Н Н Э Д Ы

22-га лістапада г.г. у месьце Далляс,Тэксас,а гадзіне I.3I папаўдні сьмяртэльна быў ранены стрэлам у галаву, праязджаючы па вуліцы ў адкрытай машыне, прэзыдэнт Кэннэды,які ў той самы дзень памёр у госпіталі каля 2 гадзіны дня. Забойцам выявіўся Гарвэй Освальд,які з вакна складу школьных кніжак, стрэламі даканаў забойства.
Вестка аб сьмерці прэзыдэнта пакрыла жалобаю ўвесь край,а ў сэрцах амэрыканскага грамадзянства запанаваў вялікі сум. Стрэлы,якія мелі мейсца ў Далляс,трафілі ня толькі ў прэзыдэнта,але ў цэлы амэрыканскі народ,у цэлае грамадзянства не залежна ад партыйных і груповых перакананьняў. Прэзыдэнт Кэннэды быў насьбітом ідэалаў свабоды і роўнасьці,сіліўся ўтрымаць ува ўсім сьвеце супакой і парадак. Ён быў вялікім дэмакратам,жыў з думкаю дапамагаць кожнаму чалавеку будаваць сваю дачасную долю,жыў для вольнасьці ўсіх,жыў і змагаўся для роўнасьці правоў для ўсіх. Памёр на варце,як дзейны жаўнер учасе выкананьня службовых абавязкаў.

Пасьля сьмерці адразу цела Яго самалётам было перавезена ў Вашынгтон у Белы Дом,а пазьней перавезена да Капітолю для публічнага агляду, дзе праходзячы каля труны аддало апошнюю пашану каля 250.000 асоб.

З Капітолю труна пакрытая штандарам на вайсковай двуколцы,запрэжанай ў тры пары белых коней ды з вайсковымі почасьцямі была перавезена да Катэдры сьв. Мацьвея,дзе Кардынал Кушынг з Бастону ў саслужэньні іншага духавенства адправіў чын пахавінаў.У Катадры на жалобнай Багаслужбе прысутнічала I.200 асоб у тым ліку каралі,прэзыдэнты і рэпрэзэнтанты з усіх краінаў за выняткам камуністычнага Кітая,які рэпрэзэнтантаў не прыслаў.Савецкі Саюз рэпрэзэнтаваў Мікаян,які гэтак сама,магчыма першы раз у жыцьці, наведаў хрысьціянскую сьвятыню.
Пасьля жалобнае Багаслужбы працэсыя пахавінаў накіравалася на морскі магільнік у Арлінгтон,які прадназначаны для пахавінаў усіх загінуўшых гэраічнаю сьмерцю грамадзян Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Пахавіны адбыліся пад гукі 2I гарматнага стрэлу,бо прэзыдэнт учасе другое Сусьветнае вайны быў адважным марскім ваякам і вайсковы запал не пакідаў яго на працягу ўсяго жыцьця аж да гераічнае сьмерці.
Сьлядкуючы ў тэлевізыі за адбываючымся працэсам пахавінаў,было ўражаньне быццам усё амэрыканскае грамадзянства ішло за труною,брала ўдзел ў пахавінах,прыглядалася на зьехаўшыхся з усяго сьвету каб правясьці яго на вечны адпачынак,кіраўнікоў дзяржаваў,хвалявалася, бачачы ідучую за труною сямью і радню загінуўшага,на войска,якое аддавала яму апошні гонар,ды на шматлікі натоўп людзей.

Сьлядкуючы за страшным здарэньнем,не ў аднаго сэрца разрывалася ад болю на часткі,было прасякнутае рознымі перажываньнямі,а пачуцьцё паглыблялася,лагодзілася ды ў роспачы прасьвятлялася.

Забойства прэзыдэнта адбілася гучным рэхам па ўсім сьвеце.Для аўдавелае жонкі і асіцацелых дзяцей,а гэтак сама і для Амэрыканскага Ўраду з розных частак сьвету надаслана мільёны спачуваньняў.Брытыйскі Парламент пастанавіў каб памятнік Кэннэды быў пастаўлены каля памятнікаў Лінкольна і Рузвэльта. У Бэрліне адна з сквэраў пераіменвана на назоў"Джон Кэннэды,"Парламэнт Пэругвайскі пастанавіў прызнаць пасьмертную нагароду Нобля,у Балівіі адзін з будучыхся будынкаў пастаноўлена назваць імям "Кэннэды".

А таму зусім сьмела можам сказаць,што Кэннэды ўвайшоў ня толькі ў гісторыю,каторая і будзе судзіць яго згодна ягонае дзейнасьці,бо ўвайшоў у зразуменьні свайго народу як нейкі нацыянальны здабытак сучаснасьці.

А арыштаваны забойца прэзыдэнта Гарвай Освальд, на трэйці дзень пасьля сьмерці прэзыдэнта быў забіты Джэкам Рубы ўчасе,калі Освальд двух дэтэктываў і некалькі паліцыянтаў,пратрансфартовалі з мейскае да павятовае вязьніцы.

## ДЗЕЙМА ФАКТАМІ

Напэўна некаторыя, прачытаўшы нумар першы нашага часопісу "Уздым" сьціснулі плячукамі ды зьдзіўлена падумалі,ці сапраўдныя факты ў ім пададзеныя? На гэта мы адкажам: прастудыюце і падумайце. А думкаў ня можна нічым іншым замяніць,хіба толькі думкамі глыбейшымі ды праўдзівымі.

Наш актыў,выдаючы гэты часопіс,не хістаецца веручы ў сапраўднась што напісана,не баіцца яе паўтарыць тысячу разоў,калі на гэта зойдзе патрэба.

Гэта не азначае,што наш розум ёсьць зачыненым для якіх колечы рачовых аргумэнтаў.Не! Зь вялікаю радасьцю мы будзем прыслухоўвацца да разумнае крытыкі і парадаў і будзем удзячнымі,калі нехта рачовымі аргумэнтамі выявіць нашыя памылкі.

Нам ведама,што паміж беларускага грамадзянства на выгнаньні існуець падзел на ўгруааваньні,а гэтым самым і падзел на ідэалёгічныя плыні.Гэтак сама праўдаю ёсьць тое, што паміж намі ёсьць людзі напоўненыя дынамікай у мажлівасьць выкананьня вялікіх ідэалаў,але ёсьць сумнаю праўдаю і тое,што значная частка нашых інтэлектуальных сілаў зусім адыйшла ад грамадзкага і палітычнага жыцьця,або выконвае працу зусім шкодную ,а гэтым самым выкароньвае сьветлыя ідэалы ў тых ,якіяб маглі прынесьці шмат карысьці дзеля стварэньня маналіту нашае эміграцыі дзеля агульнага дабра для Бацькаўшчыны.

Праўда,выкананьне кожнае справы вымагае часу,як і кожнае жывое стварэньне,кожная расьліна патрабуе час каб пусьціўшы карэньні разівіцца,вырасьці.

Былоб зусім ненармальным каб чалавек сяньня пасеяў зярно,а на другі дзень ужо хацеў-бы зьбіраць каласкі.Гэтак сама былоб сьмешным,калібсяньня быў пасаджаны жалудок,а на другі дзень,хацелib бачыць ужо там вялікага дуба.Гэткі пагляд рэчаў выглядаў-бы не інакш як самаабманам. Аднак у грамадзкім жыцьці нажаль падобныя факты здараюцца,бо г.званыя кіраўнікі ўгрупаваньняў сяньня голасна крычаць за нацыянальную ідэалёгію,востра крытыкуюць адзін аднаго за нячыннасьць,за нерэальны падыход да справы,а пазьней самі ідуць па тымжа шляху.

Чаму гэта робіцца? А рэбіцца гота таму, што мы часта не разумеем таго,што ўсякая праца патрабуе час і плянаваньня,а іншыя толькі выконваюць згары накінены ім плян. А пляны родзяцца як і зерня ў розумах адзінак,а пасьля мусяць трафіць на карысную глебу.У далейшым развою іх мусяць пеленгаваць і ўзгадоўваць кіраўнічыя адзінкі,а каля іх ужо фармуецца воля шырэйшых масаў,якая прасякнута ідэяю змагацца за вялікую справу.

Галоўным-жа дзейнікам дзеля фармаваньня ідэяў і правядзеньня

іх у жыцьцё ёсьць прэса. Яна ёсьць праваднікам народу. У нармальных часох,дзякуючы прэсы,ня толькі ўзгадоўваецца цэлае пакаленьне,але падгатаўляецца на дзесяткі,або і на стагодзі гадоў наперад.

На вялікі жаль уся беларуская прэса ўжо на працягу стагодзяў для нашага народу на Бацькаўшчыне знаходзілася пад срогаю цэнзураю акупантаў,а таму толькі паміж радкоў можна было чытаць і дагадвацца што меў на мэце аўтар артыкулу выказаць,а асабліва ў часе вайны.Пасьляж заканчэньня другое Сусьветнае вайны,калі на выгнаньні апынулася значная частка нашых інтэлектуальных сілаў,ня маючы ўстабілізаванага аўтарытэтнага цэнтру,кожны бел. асяродак пісаў што хацеў і як хацеў.Пасьля-ж груповага падзелу,усе высілкі і дынаміка была накіроўвана на міжсобскія лаянкі і непаладкі,а нетахтоўнасьц рэдактароў,або сьведамыя прычыны з закідамі ""квіслінгоўства",пры пячаталі груповы падзел да гэтага часу.Сьведамы гэта быў паступак, або нясьведамы аб гэтым сваё слова скажа гісторыя. Сяньня нам ведаі толькі тое,што далейшая рэдкалегія,а асабліва сучасная рэдакцыя "Бацькаўшчыны" пашла яшчэ глыбей,друкуючы артыкулы аб Віленскіх Мучэніках,пазбаўляючы іх сьвятасьці,або беларускую героіню Рагнеду выкрэсьліваючы з гісторыі як"ліпа",праз што дадзена чытачом да зразуменьня куды накіроўвае чытачоў рэдкалегія.

Аб выдаваемай сп. Пануцэвічам "Беларуская царква"не варта затрымліваацца,бо яна апрача назову нічога беларускага ня мая. Для беларускага грамадзянства гэткую прэсу бачыць не навіна.Роднымі сёстрамі ёй былі ў Вільні выдаваныя газэты Паўлюкевічамі,Умястоўскімі, ды іншымі польскімі наймітамі.Аб іншых выдавецтвах пакінемна другі раз. Сяньня зазначым толькі,што для кожнага цікавячагася,ужо добра ведамая мэта гэтых выдавецтваў і кожны ведая з кім можна супрацоўнічаць ,бо ніколі ня можна з тымі,якія праводзячы выразную раз"едныва ючую ідэю,самі далі да зразуменьня чаго яны хочуць і куды вядуць.

Чытаючы гэтыя словы некаторыя напэўна падумаюць; добра,крытыкаваць лёгка але што і як рабіць? Адказам на гэтае пытаньне будзе - рабем хоць частку таго,што робяць іншыя нацыянальнасьці на выгнаньні,мяноўна: у першую чаргу трэба зьвярнуць увагу на падрастаючае пакаленьне,каб яно няцыянальна ня было страчана,а магло замяніць нас.Першаю неабходнасьцю дзеля гэтага ёсьць,ува ўсіх асяродках арганізаваць беларускія сыботнія,або нядзельныя школкі,а дзе гэта немагчыма праводзіць індувідуальнае ўзгадаваньне. Для нармалізацыі гэтага пытаньня неабходным ёсьць заснаваць Культурна-асьветны Беларускі Цэнтар. Вельмі былоб пажаданым і заснаваць Агульна-Беларускі рэпрэзантацыны Асяродак,каб праз гэта пазбыцца рэпрэзантаваньня беларускіх справаў прадстаўнікамі паасобных груповак,што часта прыносіць не карысьць,але школы для агулу беларускае справы,бо часта былі выпадкі,гэткія прадстаўнікі недагаварыўшыся,пасьля гутарак з урадавымі чыньнікамі выходзяць праз адныя дзьверы,а ў той самы час уваходзіць іншы прадстаўнік і рэфаруе справы зусім у адмоўны кірунку ўводзячы ў блуд урадоўца ,які выносіць няпрыхільнае ўражаньне аб гэтай нацыянальнасьці.

А самае галоўнае ўжо час пакінуць груповы падзел і адносіцца з пагардаю да тых хто яго падтрымоўвае,ды ўзяць прыклад з другіх народаў,у якіх нават чацьвёртае пакаленьне ёсьць сьведамым якое ён нацыянальнасьці,папраўна гаворыць моваю сваіх бацькоў,а праз гэта ёсьць здольным каб нават у неадказны час зарганізавацца і стацца авангардам да вызваленьне свае Бацькаўшчыны!

==================================================================

СЬВЯТЫ ЯЗАФАТ

Пад гэткім назовам сп.Пануцэвіч у Чыкаго у 1963 годзе выдаў ратарным спосабам кнігу,дзе дапушчана шмат тэндэнцыйных мяркаваньняў аўтара кнігі,а таму мы у скарочаньні пастараемся для паважаных чытачоў выясьніць недакладнасьць пададзеных фактаў,пакідаючы поўную рэцэнзыю кнігі на пазьнейшыя часы.

Ужо напачатку свё працы на балонцы 4 чытаем:"сьв. Язафат нарадзіўся каля 1580 г. у Уладзімеры Валынскм.....аднак род Кунцэвічаў беларускаг /гістарычна-літоўскага/паходжаньня, а гэта таму,што калісь гэты род жыў на прасторах сучаснае Беларусі.Як бачым вельмі слабая аргумэнтацыя,бо каліб нават сам Язафат нарадзіўся на Беларусі,а не прызнаваў сябе беларусам ціж маям мы права яго прызнаваць за свайго? Нарадзіліся-ж там Міцкевіч,Касьцюшка,Траўгут,Пільсюдзкі,род Дастаеўскіх і. а кім яны сябе лічылі і каму спрыялі? А ў жыцьцярысе Кунцэвіча знойдзеце дзе колечы каб ён наз. сябе няхай сабе тагачасным назовам Ліцьвін? Не! Гэтаганя знойдзеце.

Далей на балонцы 30 напісана:"Язаф.Кунцэвіч быў выдатным арганізатарам "сьвятым" гэта значыць яшчэ за жывую галаву,не існуючы тады сп. Пануцэвіч яго кананізаваў у сьвятыя,бо дзеялася гэта у 1610 годзе, а як ведама,што ў кніжцы"Суадносіны абрадаў у Усходняй Галіцыі,выдадзенай у Львове у 1839 годзе Язафат ня толькі не прызнаваўся сьвятым, а залічаны да ворагаў украінскага народу і на балонцы 112 чытаем: "Язафат Кунцэвіч у Полацку дараджваў Каралю ,каб Русінаў /г.з.праваслаўных/невуніятаў выгнаць з краю".А гэтая кніжка была выдадзеная грэка-каталікамі не праваслаўнымі.Апрача гэтага ў дыяцэзыі Львоўскай, Станіслвоўскай,дзе было больш тысячы вуніяцкіх парафіяў у тым часе ніхто пра сьвятасьць Кунцэвіча ня ведаў і не ўспамінаў,ды і сам аўтар кнігі піша,што кананізацыя адбылася толькі 29 верасьня 1867 году, а аж у 1902 годзе зьявілася першая кніжка на ўкраінскай мове пад наз. "Жыця Священномученика Иосафата",аўтарам якое быў Казаковіч.Вот-жа аж 279 гадоў па сьмерці была накінена святасьць і не беларусам,а ўкраінцам,а да таго часу грэка-каталікі без яго абыходзіліся,бо былі сьведамы,што вунію накінулі палякі сілаю,а Кунцэвіч быў адзін з тых, што памагаў палякам у іхняй рабоце.

Да і самую сьвятасьць Кунцэвіча самі прадстаўнікі Рыму падсунулі думку ,што Язафат ёсьць украінскім сьвятым,а пачынаючы ад 1940 году ў Англіі праз а. Сіповіча,а пазьней у Амэрыцы праз сп. Пануцэвіча накідаецца думка,што Язафат ёсьць беларускім сьвятым.Напачаткуж за пасярэдніцтвам Рыму рабілася проба і нават публічна асьвятчалася,што Язафат належыць да польскіх сьвятых.Аб гэтым пададзена ў энцыкліцы Папы з 1923 года наступнага зьместу:"Гіс іс,маніфэсто нотэс, тзе Гро-мартыр оф тзе Уніат Рутэніас,анд уан оф тэз спэцыал патронс оф Полянд".У перакладзе гэта азначае;" Ён ёсьць вялікадушны,зазнача ў энцыкліцы,першамучанікам вуніятаў русінаў,і адным з спэцыяльных заступнікаў Польшчы".

На балонцы 31 аўтар кніжкі ўспамінае пра "манаскую пакорнасьць"Язафата.Магчыма,што з прыроды Язафат быў выхаваны на асновах рэлігійных, але пазьней будучы пад уплывам гэткіх езуітаў як Рутскі,Фабрыцкі і інш. стаўся зацятым ворагам праваслаўных. У часопісу "Світло" №22 знаходзім наступныя словы Язафата:" Я прасякнуты гэткаю ненавісьцю да схізматыкаў /г.з.праваслаўных/што быў змушаны паўтараць словы:

==================================================================

"Я зьненавідзеў зборышча злыдняў" г.з. збор праваслаўных у Царкву каб памаліцца. "Вот якою была ягоная манаская пакорлівасьць"

А як -жа ён дайшоў да гэткае Пануцэвічавае "пакорнасьці"?Аб гэтым паведамляе украінскі часопіс "Свитло" у № 2 і 3 дзе гаворыцца:"Язафат стаўшыся манахам выбраў сабе найбяднейшую Келю.Выглядала нібы,што ён прырокся быць"затворнікам".У гэтай келі ён адбіваў адразу па 1000 разоў паклоны.Пад ваўняным адзеньнем насіў найгрубшую валасянку.Спаў на голай падлодзы.Раздабыўшы дзесьці даўгі жалезны ланцуг з войстрымі кольцамі,акруціў ім плечы і плячукі сціскаючы сябе гэтак моцна, што канцы ланцуга ўрэзаліся ў цела". Запазычыўшы ад лацінскага абраду добраахвотнае "бічаваньне" ён сярод начы выходзіў толькі ў валасяцы і басанож па сьнегу на магільнік каля царквы.Там схаваўшыся,каб ніхто ня бачыў,станавіўся на калені і бічаваў сябе аж да крыві,так доўга,што аж ногі прымярзалі да камяня".

За гэткае аскетычнае захаваньне ды фанатызм зь якім ён усюды прапаведваў ды з дапамогаю ўрадавых чыннікаў сілком заганяў праваслаўных у вунію,жыхары Вільні празвалі яго "душахватам". Зьверхнікуж яго тагачаснаму вунійнаму мітрапаліту Пацею,ведама гэткая работа Язафата вельмі падабалася,а таму ён назначыў яго напачатку настаяцелем манастыра ў Бытэні,а пазьней у Жыровічы.

Успамінаючы пра гэта сп. Пануцэвіч нават не сароміцца пісаць гэткія рэчы:"што паводле"легенды" сьв. Абраз пабачылі пастушкі на грушы... І Ён датрываў у капліцы да прыходу Язафата Кунцэвіча".Дык якаяж тут заслуга Кунцэвіча ? Мажліва толькі тая,што Кунцэвіч сілком адабраў манастыр у Жыровіцах і заўладаў Цудатворчым Абразом Апякункі Беларускага Народа,ды за яконым прыкладам палякі адрадзіўшы Польшчу ў 1920 годзе ізноў падпарадкавалі манастыр ?

На балонцы 36 - 37 кніжкі"сьв. Язафат " аўтар апісвае прыняцьцё манахамі Кунцэвіча ў Пячэрскім манастыры,адкуль манахі яго адразу гналі вон,а пазьней калі на прапанову Кунцэвіча прынеслі яму літургічныя кнігі зь якіх ён зрабіў выклад "аб Царкве Хрыстовай з намесьнікам Пятра папаю Рымскім" ды з задаваленьнем яго слухалі.Ціж гэта не мана чыстае вады? У ніякіх літургічных кнігах праваслаўных няма і ўспаміну пра нейкае намесьніцтва Пятра. Гэта толькі магчыма знайсьці ў навуцы каталіцкага касьцёла і то не ў літургічных кнігах, як піша Пануцэвіч, а ў каталіцкім ктафізме прадназначанай спэцыяльна для агулу каталіцкага,а не праваслаўнага.

<u>Я з а ф а т А р х і е п і с к а п а м.</u>

У 1618 годзе памёр стары Полацкі Архіепіскап Гэдэон.Кароль,па рэкамандацыі вунійнага Мітрапаліта Руцкага ,мянаваў Кунцэвіча на Япіскапа Полацкага,прызнаючы яму ўладу над усімі праваслаўнымі цэрквамі і манастырамі ў Полацку,Віцебску,Магілёве,Мсьціслаўю і Оршы,ды над усімі парафіямі гэтае Епархіі.

Згодна тэзаў Пануцэвіча /бал. 40/ на ўезд у Полацак Кунцэвічу патрэбны быў час на падрыхтоўку каля двух месяцаў." Адбыўся ўезд з вялікаю помпаю пад гукі гарматаў,ў асысце каралеўскае сьвіты і канвою з каралеўскім камісарам на чале Тышкевічам. Ён-жа першы прывезшы ў Полацак і прамовіў: "З волі Божай і нашага караля я прывожу вунійнага біскупа,каторы ёсьць сьвятло і каштоўнасьць,гордасьць і.г. далей.Вось тут і відавочна што аўтар сам сабе супярэчыць пішучы,што Палачане прасілі каб прыехаў Кунцэвіч.А каб прасілі то пашто-ж тады для гэткага Сьвятла" быў-бы патрэбны вялікі канвой? Відавочна дзеля таго каб пасадзіць яго паміма волі вернікаў.А аб гэтым сьветчыць

і прывітаньне бурмістра Полацку які сказаў:"Калі прыходзіце з добрым намерам вітаем у імя сьв. Бога,калі аднак з ліхім,то лепш каб ніколі не прыходзілі ў Полацак"! Ужо і гэта сьветчыць,што людзі спадзяваліся,што Язафат ім дабра не жадае а прыносіць ліха.

Апынуўшыся ў Полацку Язафат пачаў ужываць усялякіх магчымых спосабаў каб перавесьці ўсіх у вунію. Адных прыцягваў абяцанкамі выгаду і каралеўскаю ласкаю,а другіх заганяў ў вунію пагрозамі,карамі,судамі і вязьніцаю.
Маючы ўсёцэлае падтрыманьне з боку караля і ўрадавых чыннікаў яму гэта выконваць было лёгка,а таму ў кароткім часе перацягнуў да вуніі Полацкага ваяводу Міхала Друцкага-Сакалінскага,які прыцягнуў сямью кашталяна Івана Корсака,Даніла Шчыта,Тодара Валовіча і другі

І калі мы лічым,што вялікім няшчасьцем для беларускага народу был тое,што багатыя тагачасныя беларускія семьі апалячыліся,то ня мо на не ўзяць пад увагу,што да гэтага галоўным чынам спрычыніўся Яз фат Кунцэвіч.Ён быў адным з тых,што асабліва прыслужыліся каб за рацьаў беларускага народу тых людзей,якія былі больш нацыянальн сьведамыя і багацейшыя каб парабіць іх палякамі.

Сьветчыць аб гэтым і Інструкцыя Ватыкану папскаму нунцыю ў Полшчы Руіні аб мэтадах і сьродках прымусовага ўводжаньня вуніі ў Беларусі-1612 года. Ніжэйпададзены тэкст ўзяты з кнігі " Беларусія ў эпоху феодалізма том I балонка 385/

<u>Пераклад з польскага.</u>

"Ува ўсіх сваіх дзеяньнях уважна сьлядкуй за тым, каб нікім не была выяўлена іншая мэта,апрача тае,аб якой раней гаварылася,г.з. захаваньне і распаўсюджваньне каталіцкае веры.Дзеля гэтага належыць пастурацъ вельмі асьцярожна ў падыходзе да другіх дзяржаўных справаў каб пазбыцца ўсялякіх западозрэньняў,лёгка ўзьнікаючых у розуму гэтага народу.

Апрача ерэтікаў у Польшчы ёсьць схізматыкі,якія ненавідзяць каталікоў,а яшчэ больш вуніятаў,г.з. тых,каторыя адыйшлі ад схізмы і далучыліся да Рымскае Царквы.

Гэтая іхняя ненавісьць яшчэ ўзмоцнілася з таго часу,як карольсваё пастановаю,перадаў вуніятам некалькі Віленскіх цэркваў,належачых да схізматыкаў,каторыя не спыняюцца рабіць захады аб скасаваньні гэтае пастановы.
Судзячы-ж па набожнасьці караля і каталіцкае шляхты,можна чакаць ад іх сталае апекі над вуніяй,тым ня менш галоўным вышым абавязкам зьяўляецца садзейнічаць вуніятам ўва ўсіх іх справах,бо вунія моцна цікавіць Папу,каторы мая надзею,што з распаўсюджаньнем яе,рэшта схізматыкаў аб"яднаюцца з рымскаю царквою. Ён колькі разоў прасіў караля,а некалькі разоў перад гэтым,асабліва налягаў,каб кіеўскаму /вунійнаму/ Мітрапаліту было прызначана мейсца ў Сэнаце і аб гэтым пісаў князю /Янушу/Астрожскаму,кракаўскаму кашталяну,каб ён з св боку пастараўся дапамагчы яму ўвайсьці ў сэнат.......

/Рэляцыя апостальскіх нунцыяў і іншых асоб аб Польшчы ад 1548 да 1690 году.Том II Бэрлін-Пазнанъ 1864 г. Балонка III - 113/

Вось гэта шлях якім сілком накідалася вунія беларускаму народу,а па Вашаму сп. Пануцэвіч праваслаўныя беларусы хацелі вуніі і прасілі Кунцэвіча каб прыехаў да іх і рэлігійна апякаваўся імі. Га!

/Працяг у наступным нумары/

=================================================================

## ДУХОВАЕ АБЛІЧА АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ.

Як падае амэрыканскі часопіс "Нэйшэнэл Рэвью",сярод вучняў старэйшых клясаў,у спэцыяльна адабраных Коледжах,для выясьненьня палітычнага і рэлігійнага пагляду вучняў, былі праведзены апытальнікі.Пытаньні ў апытальніках былі надзвычайна падрабязныя,а таму зьяўляюцца нават матарыялам для карыстаньня тых дасьледчыкаў,якія праяўляюць зацікаўленьне да студыюючай моладзі.

Анкета разьдзелена на дзьве зусім паасобныя часткі.Першая адносіцца да палітыкі,у якой пастаўлены тры галоўныя сьветапагляды: лібэральны,кансэрватыўны і сацыялістычны. Пакольскі-ж асабліва цікавым зьяўляецца кірунак,згодна ягога праходзіць развой студэнтаў,павучальным ёсьць ведаць,што згодна агульнага правіла,заўважанецца нахіл студэнтаў да левага кірунку,а не да правага.

Цікавым ёсьць і тое,што ў апытальніку хаця і не адзначана прыналежнасьць сямьі да рэспубліканцаў ці дэмакратаў і не адзначаны палітычны кірунак студэнта,а таму можна судзіць па сямьі зь якое ён паходзіць.Ня бярэцца пад увагу і матарыяльнае забясьпечаньне студэнта, аднак можна дайсьці да выснаву,што нахіл да левага кірунку больш праяўляецца сярод багатых чымся сярод бедных. У апытальніку дасьле... чым выразна зазначана,што студэнты з беднага серадовішча маюць нахіл быць больш антыкамуністамі,як студэнты з багатых семьяў.

З афіцыяльнага рэзюмэ можна зрабіць наступны выснаў; што Коледжы субсыдыяваныя дзяржаваю і колежы каталіцкія менш прасякнуты лібэралізмам,як колежы прыватныя. Жыды асабліва прыхільныя да лібэралізму,найбольшы нахіл да кансэрватызму праяўляюць пратэстанты,сацыялістычны нахіл больш моцны сярод няверуючых і неграў,зь якіх аднак частка мая тэндэнцыю быць зацятымі антыкамуністамі,усёж кансэрватыўны рух ахоплівае больш як трэйцюю частку студэнцтва.

Аднак з пасярод пытаньняў спасьцярагаецца важным адно,якое найбол... можа быць для нас хвалюючым,пакольскі чалавек яшчэ жыве і нармальна разважае,а гэта тое,што на пытаньне: "штоб вы выбралі калі-б З.Ш.А. апынуліся ў такім становішчы,што ня былоб другога выхаду апрача вайны з Савецкім саюзам,або паддацца Савецкаму Саюзу"? Дык нашоўся адзін Коледж,у якім 60% студэнтаў выказаліся за паддачу,а ў двух Коледжах выказалася за гэта 46%,і ў адным 49%. Агулам-жа адна пятая частка студэнтаў выказалася за паддачу.

Неабходна зазначыць і тое,што было пастаўлена толькі пытаньне ў значаньні сусьветнае вайны ня маючы на ўвеце зьнішчэньне атомам усяго чалавецтва.

Пытаньня-ж аб неабходнасьці змаганьня з камунізмам,не ў апошнім часе,калі ўжо будзе пастаўлены"ўльтыматум",а аб няўпынным змаганьні з камуністычнаю ўладаю ў імя падняволенага чалавецтва,у апытальніку ня было. І як на яго адказалаб студэнцтва былоб вельмі павучальным у сучасснасьці для ўсяго чалавецтва.

=================

## ЗАДОЎЖАНАСЬЦЬ ЭЎРОПЫ ДЛЯ АМЭРЫКІ.

За час першае і другое Сусьветнае вайны Эўропа вінавата Амэрыцы 27 більонаў даляраў.Англія вінавата 13220 мільёнаў даляраў,Францыя-7.033, Італія - 2.255, Саветы - 827 мільёнаў,Бэльгія - 732 мільёны, Польшча 532 мільёны з чаго 435 мільёнаў пазычана перад другою Сусьветнаю вайною,а 97 мільёнаў у 1940 годзе.
І не адна з вымененых дзяржаваў ня мая намеру дыскутаваць на тэму сплаты і забавязаных тэрмінаў.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

"Другога Епархіяльнага Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Паўночнае Амэрыкі ў справе задзіночаньня беларускіх праваслаўных парафіяў у Амэрыцы й Канадзе.

Другі Сабор Епархіі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады, які адбыўся 30 лістапада 1963 году ў Нью Ёрку,лічыць правільнымі жаданьні праваслаўных беларусаў ЗША й Канады да царкоўнага паяднаньня ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Дзеля таго,што беларускае сучаснае палажаньне ў сьвеце вымагае вялікіх высілкаў ад беларускае грамадзкасьці, каб належна абараняць свае правы на нацыянальную й рэлігійную незалежнасьць; і дзеля таго, што ўжо ў напрамку аб"яднаньня прароблены пазытыўныя пачаткі, гэтая справа вымагае неадкладнага вырашэньня.

Епархіяльны Сабор даручае новай Управе праводзіць перагаворы з усімі зацікаўленымі асобамі й дзейнікамі дзеля падрыхтаваньня царкоўнага з"езду беларусаў у справе рэалізацыі аб"еднаньня ў як най бліжэйшым часе. "

Нью Ёрк,
30 лістапада 1963 г.

I на гэтым-жа Епархіяльным Саборы была прынята другая рэзалюцыя наступнага зьместу:

" У часе,калі кіраваныя Масквою нячыстыя сілы намагаюцца па ўсім сьвеце разлажыць і зьнішчыць рэлігійна-грамадзкія асновы людзкога жыцьця,мы беларускія эмігранты на вольнай амэрыканскай зямлі, заяўляем аб нашай адданасьці веры продкаў нашых і адвечным традыцыям падняволенага Беларускага Народу. У той-жа час,мы ,ахвяры старога й новага расейскага імпэрыялізму,лічым сваім хрысьціянскім абавязкам перасьцерагчы тых, хто па сваёй дабрадушнасьці паддаецца ілюзыі аб магчымасьці супрацоўніцтва й сужыцьця з чырвонаю Масквою.

На аснове інфармацыяў,якія даходзяць да нас з першакрыніцаў,мы сьветчым, што сучасная савецкая ўлада ў нічым не зьмяніла народазабойчай палітыкі з часоў Сталіна. Наадварот,яна ўсіліла гэну палітыку праз выкарыстаньне расейскае Праваслаўнае Царквы дзеля сваіх імпэрыялістычных мэтаў.

За апошніх колькі год старая ідэя прўнай ізаляцыі расейскае царквы ад вольнага сьвету заменена палітыкай шырокіх кантактаў і ўдзелу савецкіх "царкоўнікаў" ува ўсіх міжнародных зьездах,канфэрэнцыях і арганізацыях,Так чырвоная Масква пралажыла сабе новую сьцежку,ра якой можа прапіхаць сваіх агентаў у мейсцы і арганізацыі дасюць ім мала даступным.

У міжчасе-ж яна сыстэматычна ліквідуе астаткі рэлігійнага жыцьця па савецкіх рэспубліках: Як даведваемся, адзіная духоўная сэмінарыя на тэрыторыі Савецкай Беларусі ў Жыровічах-што рыхтавала прав слаўных духоўнікаў для дзейнасьці сярод мільёнаў вернікаў,зачынена расейска-камуністычнай уладай у 1963 годзе. Тысячы беларускіх цэркваў заменены ў склады - у тым ліку й Сабор Сьв. Сафіі з XI га стагодзя ў Полацку ,а некаторыя сьвятыні ператвораны ў цэнтры анты-рэлігійнае прапаганды. Старыя духоўныя кадры выні-

шчаны жорсткім прасьледам, застаўшыяся выміраюць і не замяняюцца новымі. Пры ўсім гэтым праваслаўная царква ў Савецкай Беларусі,з усей сваёй закамянелай расейшчынай, сталася паслушнай прыладай у руках бязбожнага рэжыму, якога адзінай мэтай ёсьць вынішчэньне беларускага народу,яго гістарычных традыцыяў і культуры.

Як дэструктыўны фактар, праваслаўная царква на тэрыторыі Савецкае Беларусі ня можа ўяўляць сабою ніякае духова-маральнае сілы,ня маючы арганічнага кантакту з Беларускім Народам.

Таму мы востра пратэстуем супроць ганараваньня ў вольным сьвеце гэтак званага Мітрапаліта Менскага й Беларускага Нікадыма,які з дазволу і з загаду расейскае Масквы ўводзіць у блуд людзей добрай волі. Ён ня мае нічога супольнага з Беларускім Народам, ды ня мая ніякаг мандату выступаць як рэлігійны праваднік Беларусаў у навучаньні Хрыстовае навукі.
Нью Ерк,
30 лістапада 1963 г.

## З ГІСТОРЫІ НЬЮ ЁРКУ

На загад Гэнрыка Гудзона,каторы першы прыплыў на рэчку,каторая цяпер носіць ягонае імя, у 1611 годзе ніжэй Бовлінг Грын , быў збудаваны невялікі форд на абтоку Мангаттон.

Капітан Хрыстэнзэн,толькі з двума жаўнерамі,заўладаў гэтым фортам і быў першым белым паселенцам у Нью Ёрку.Пазьней Заходня-Дунская супалка "Вэст Індыя Ко."выслала 30 семьяў з Амстэрдаму,як першых навасельцаў на абтоку Мангатттан.Кіраўніком гэтых новапасяленцаў быў назначаны Пётра Мінуім. Ён закупіў гэтую абтоку Мангаттан ад Індыянаў за суму 24 далары і назваў гэтае аселішча Нью Амстэрдам.

У 1664 годзе Ангельцы занялі гэтае галядзкае аселішча Нью Амстэр і кароль ангельскі Кароль II-гі, падараваў яго сваймў брату Рыгор, князю ангельскага княства Ерк, у знак чаго гэтае аселішча і прыняло назоў Нью Ёрк,які напачатку быў першаю сталіцаю Злучаных Штатаў Амэрыкі.
У сучаснасьці па ліку насельніцтва Нью Ерк пасьля Лёндану належыць да найбольшых гарадоў у сьвеце,займаючы абшар 299 квадратных міляў. Праз горад працякае дзьве рэчкі "Іст Рывэр" і"Гарлем Рывэр",а заходнюю граніцаю Нью Ёрку зьяўляецца рэчка Гудзон.

На абшары Нью Ёрку налічваецца аж 882 паркі,якія займаюць 26.522 акры паверхні.У горадзе ёсьць 48 адправачных радыёвых станцыяў і 6 тэлевізыйных станцыяў.

У месьце Нью Ёрку адбываліся цэрамоніі перадачы ўлады новавыбранаму прэзыдэнту Вашынгтону і ўрадаваў Кангрэс ад 1785 да 1790 г.

Належыць гэтак сама адзначыць,што места Нью Ерк хутка ўзбагацілася і разьвілося дзякуючы таму, што зьяўляецца прынцыпальным портам у які што год прыплывае больш 5.000 параплаваў і амаль палавіна гандлёвых абаротаў Злучаных Штатаў канцэнтруецца ў гэтай мэтраполіі. Найлепшым-жа пунктам абсэрвацыйным,зь якога можна агледаць прыгожасьць порту і затокі ў Новым Ёрку ёсьць вежа Статуі Вольнасці ахвяраванаю Злучаным Штатам Францыяй у 1885 годзе.
У нью Ёрку знаходзіцца і найвышэйшы будынак у сьвеце "Эмпаір Стэйт Більдунг"/1250 фіт высокі/.Нью Ерк зьяўляецца і сталаю сядзібаю Арганізацыі З"адзіночаных Народаў, што месьціцца ў раёне 42-48 вул.

=================================================================

## АДКАЗЫ РЭДАКЦЫI

Вельмі Паважаны Сп. М.Ш.

Усёцэла падзяляем Вашыя думкі ў справе аб"еднаньня ўсіх праваслаўных беларусаў на выгнаньні каля свае нацыянальнае БАПЦарквы.Гэтае справа як бачыце дэбатавалася і на Епархіяльным Зьездзе і набірае з кожным разам большага адгалосу, ды даўно пара апамятавацца,што падзел сярод праваслаўных на юрысдыкцыі,або належаньне да іншанацыянальных парафіяў ёсьць падобным самаліквідаваньню.

===================

Вельмі Пав. Сп. Ю.Н.

Ваш закід,што зьмест "Уздыму" ськіваваны супроць беларусаў Рыма-каталіцкае веры зусім не абаснаваны. Хочам Вас запэўніць,што мы глыбока сьведамы таго,што нацыянальна сьведамыя беларусы каталікі шмат спрычыніліся для адраджэньня бел. нац. руху,а таму мы заўсёды гатовы шчыра супрацоўнічаць як у рэлігійнай,гэтак і грамадзкай галіне.
Рожніца-ж у рэлігіях не перашкаджала ў мінулым і не павінна перашкаджаць у сучаснасьці згодна працаваць каб асягнуць ідэал незалежнасьці Бацькаўшчыны. Віноўнікаў-жа,што стаяць на перашкодзе да адзінства і супрацоўніства просім не шукаць паміж выдаўцоў "Уздыму",а просім прачытаць уважна ўсе 25 нумароў часопісу "Беларуская Царква" і абудва нумары " Беларускі праваслаўны часопіс",каторыя выдае сп. Пануцэвіч і Ко. у Чыкаго і самі пераканаецеся ці патрэбная нам гэткая шкодная разьбівальная работа,бо ўся яна ськівавана сьведама супроць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ,Яе Епіскапату,сьвятароў і наагул супроць ўсіх праваслаўных,якія саматугам прабіваюць цярністы шлях да незалежнага рэлігійнага і грамадзкага беларускага жыцьця.Ды яшчэ пашчырасьці Вам скажам,што каб ня было вунійнае акцыі праводжанай сп. Пануцэвіча і Ко.,ня было патрэбы праводзіць супроцьвунійнае акцыі ў "Уздымі" і іншых бел. часопісах. I ад Вас ,Дарагія Браты- Каталікі, шмат залежыць каб была спынена шкодная вунійная акцыя,праз што нашае нацыянальнае аб"еднаньне зусім не парушыцца,а наадварот узмоцніцца,бо кожнаму з Вас ведама,што вуніятаў паміж беларусаў няма і што вунія была сілаю для праваслаўных накінена і сілаю зьліквідаваная,пакідаючы пасьля сябе ганебную памяць. Просім прыняць шчырыя словы нашае прыязьні.

====================

**УВАГА ДА ЎСІХ ПАДПІСЧЫКАЎ І ЧЫТАЧОЎ!**

Рэдакцыя і адміністрацыя "Уздыму" гэтым ветліва просіць усіх атрымаваючых наш наш часопіс прыслаць падпісную плату. Не запамінайма,што хаця газэта выдаецца ратагарным спосабам,аднак на патрэбную колькасьць матарыялу і паштовую аплату вымагаюцца значныя выдаткі.Наступны нумар будзе высланы толькі тым,хто прышле падпісную плату.
Адначасна рэдакцыя і Адміністарцыя "Уздыму" шчыра дзякуе ўсім тым, што адгукнуліся на наш заклік і прыслалі грашовыя ахвяры.

З пав. Рэдакцыя "Уздыму"

# Х Р О Н І К А

Кліўленд:

26-га кастрычніка Жаночае Згуртаваньне ладзіла вечарыну, якая прайшла вельмі ўдала. Быў падрыхтаваны багаты буфэт. Аркестра "Палесьсе пад кіраўніцтвам Ул.Літвінкі грала старанна й прыгожа.

10-га лістапада Бацькоўскі Камітэт Беларускае Сыботняе Школы ладзіў банкет. Прыбылі бацькі школьнікаў і шмат грамадзтва, каб падтрымаць матарыяльна й маральна. Банкет распачаўся малітваю, якую прачытаў а.А.Крыт. Старшыня Бацькоўскага Камітэту сп.Я.Раковіч прывітаў прысутных і перадаў слова кіраўніку Беларускае Школы праф.А.Кахано скаму. У сваёй прамове праф.А.Каханоўскі зьвярнуў увагу на значэньне школы ў выхаваньні беларускіх дзяцей на выгнаньні. Заклікаў бацькоў да супрацоўніцтва і дапамозе ў навучаньні дзяцей, пералічыўшы некалькі спосабаў. Гучэлі песьні; вяліся сяброўскія размовы; людзі розных паглядаў марылі аб будучыні беларускае калёніі ды каб наступнаму пакаленьню перадаць усё добрае й карыснае для беларускае справы. Таму ЇЙ была сарганізаваная ў Кліўлендзе агульна беларуская школа для ўсіх беларускіх дзетак. Усе хрысьціянскія сэрцы цешыліся з сваіх прыгожых у учынкаў, узрасталі духова, узмацнялася любоў да свайго брата-беларуса. Але яшчэ некаторымі душамі ўладае нячыстая сіла. Яны сумуюць і злосьліва ненавідзяць запраўдную хрысьціянскую любоў, хаця некаторыя прыхільнікі, а некаторыя й самі вядуць "місыянерскую работу". Барані нас Божа, і нашу Бацькаўшчыну ад такіх місыянераў, праз якіх ужо й так шмат пралілося беларускае крыві, а наша Бацькаўшчына трапіла на стагодзьдзі ў няволю й прыгнёт.

23-га лістапада заняткаў у школе ня было. Айцец А.Крыт адслужыў паніхіду па загінуўшым ад рукі забойцы Прэзыдэнту Кэнэды. Запаленыя сьвечкі ў руках дзетак, вынесеныя сьцягі, прыгожы сьпеў хору пад кіраўніцтвам сп.К.Кіслага - усё стварала малітаўны й жалобны настрой у сьвятыні. Паніхіды адбыліся з гэтае самае нагоды і ў наступныя два дні, 24-га й 25-га лістапада.

24-га лістапада адбылося сьвяткаваньне Слуцкага Збройнага Чыну. Пасьля сьв.Літургіі а.А.Крыт адслужыў паніхіду па загінуўшых героях, а а 4-ай гадзіне адбылася Акадэмія.

28-га лістапада парафія БАПЦарквы адзначыла дзень удзячнасьці. А 11-ай гадзіне адбыўся малебен, дзе а.А.Крыт сказаў прынагоднае казаньне. Адразу пасьля малебену ў царкоўнай салі Царкоўная Рада наладзіла абед з традыцыйным індзюком /туркам/. Значэньне сьвята й паходжаньне яго паясьніў сп.М.Ягаўдзік у сваім дакладзе.

30-га лістапада адбыўся ў Нью Ёрку Епархіяльны Зьезд БАПЦарквы. Рэзалюцыі прынятыя на Зьезьдзе зьмешчаныя на 10-ай і 11-ай балонцы. Дакладнейшае апісаньне будзе ў наступным номеры.

Кліўлендзкі Аддзел ЗБМА й гэтага году выдаў прыгожые калядныя павіншавальныя карткі, якія можна набыць па ўсіх беларускіх асяродках.

Нядаўна быў выданы партрэт Янкі Купалы. Каштуе 50 цэнтаў.

Таксама выдавецтва Аддзелу выдала ноты для царквы " Малебен",напісаны сп.К.Кіслым. Аўтар сам-жа й пісаў матрыцы. Будуць выдавацца ноты і для іншых Багаслужбаў. За ахвярную працу сп.К.Кісламу належыцца вялікая падзяка.

У Аддзеле можна набыць "Беларускі Песенны Зборнік" праф.М.Куліковіча, а таксама песеньнік "Калядоўшчыкі". Першы каштуе 5 дал., а другі 1.оо дал.. Зрабіце добры калядны падарак і падтрымайце выдавецтва моладзі.

ппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппппп
++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++